


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

6 красавіка 2001 года
№ 14 (311)
Выходзіць па пятніцах




## Навіны рэгіёна

### Нарач раскручваюць

**МЯДЗЕЛ.** У Маскве прайшла буйнейшая ў СНД спецыялізаваная выстаўка «Вандроўкі і турызм». Браў у ёй удзел і галоўны спецыяліст па турызме Нацпарку «Нарачанскі» **Самвэл Абгаран**. На перамовах пра прыцягненне на Нарач турыстаў больш зацікаўленыя былі расіяне. Нарачы патрэбная рэклама.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Буслы прыляцелі

**ВІЛЕЙКА.** 2 красавіка ў буслянцы на ўязной стэле Вілейкі з боку Маладзечна зноў кружылі буслы. Увечары пара бацяноў ужо ўладкавалася ў гняздзе. У Вілейцы каля дзесятка буслянак. Рэгіён зноў пад белымі крыламі гэтай птушкі.

**Мікола ГАЙДУК.**



**Толькі прыляцелі. Пара буслоў 2 красавіка каля гарадской ваколіцы – Малюноў (Стаўкі).**
Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА

### Футбол для маладзечанцаў

**МАЛАДЗЕЧНА.** 7 і 11 красавіка ў горад прыедуць лепшыя футбольныя каманды краіны.
Міні-футбол, "Металург-ЈР" – "Сімург" (Мінск). Госці – чэмпіёны і ўладальнікі Кубка Беларусі мінулага сезона, заваявалі Кубак і сёлета. Маладзечанцы лідзіруюць у першынстве за 4 туры да заканчэння і маюць шанцы стаць чэмпіёнамі.
Футбол, "Маладзечна" – "Славія" (Мазыр). Госці – чэмпіёны і ўладальнікі Кубка Беларусі. Сёлета ставяць задачу паўтарыць мінулагоднія поспехі і змагацца за выхад у Лігу Чэмпіёнаў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

### «09» цяпер платная

**ВАЛОЖЫН.** 3 апошняй дэкады сакавіка даведачная "09" выдае толькі платныя даведкі. Кожная даведка з кватэрнага тэлефона каштуе 23 рублі, увечары і ўначы – 46 рублёў. Арганізацыі, натуральна, будуць плаціць больш. Падлічана: мясцовая служба "09" штодня дае 137 даведак.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**



## Надвор'е на выхадныя

Субота, 7 красавіка

**Мінск**
1 – 2°C (уначы)
10 – 11°C (удзень)



**Вільня**
6°C (уначы)
11°C (удзень)



Нядзеля, 8 красавіка

**Мінск**
4 – 5°C (уначы)
10 – 14°C (удзень)



**Вільня**
7°C (уначы)
14°C (удзень)



# Згарэў барак. Ёсць пагарэльцы

**МАЛАДЗЕЧНА. 29 сакавіка на вуліцы Паркавай згарэў драўляны будынак барачнага тыпу. Ахвяраў, на шчасце, няма.**

Прычынай пажару пабудовы саракавых гадоў мінулага стагоддзя інспектар дзяржпажнагляду **Валянцін Сапач** папярэдне лічыць няспраўнасць электраправодкі ці ўзмацняльніка для калектыўнай антэны. Цяпер элементы таго ўзмацняльніка паслалі ў Мінск на экспертызу. Афіцыйную прычыну дзяржпажнагляд мусіць абʼявіць не пазней за 10 дзён пасля здарэння.

7 пажарных машын тушылі барак дзве гадзіны. Пацярпела маёмасць: мэбля ў адной кватэры згарэла амаль поўнасцю, у астатніх што не згарэла, тое залілі вадой.

Жыхароў рассялілі дзе прыйдзецца – каго ў гасцініцу, каго да сваякоў. У доме 8 кватэр (адна прыватызаваная). Жылі там работнікі чыгункі, на ёе балансе і знаходзіцца барак.

У той жа дзень сабралася камісія з прадстаўнікоў гарадскога і абласнога выканкомаў, чыгункі, міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Вырашылі, што будынак будуць рамантаваць. Жыхарка (былая) **Анастасія Афанасьева** гаворыць, што пагарэльцам паабяцалі адрамантаваць дом у шасцімесячны тэрмін.

Колькі давядзецца выдаткаваць на рамонт барака, на момант здачы нумара ў друк было невядома. Выгадней, мусіць, пабудаваць новы дом. Жыхары сцвярджаюць, што фундамент дома апусціўся на 40 сантыметраў, а больш за паўстагоддзя эксплуатацыі дэфармаваліся сцены першага паверха.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА

**Анастасія Афанасьева жыла на першым паверсе гэтага дома. Дрэва, што побач, безумоўна, аджыве, а вось рамонт дома пад вялікім пытаннем.**

## Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

# Што з маёмасці вы застрахавалі?



**Іван Дзядзёла, пенсіянер:**
– Раней на рабоце было працей: страхаваліся ўсе. Не глядзелі, хочаш ці не. Апошні раз страхаваў дзяцей на вяселле, а атрымаў капейкі, бо абясцэніліся тыя грошыкі. Цяпер у мяне не застрахавана нічога. Адкуль я з пенсіі вазьму грошы? Калі б можна было плаціць па частках, мо, і застрахаваў бы маёмасць.



**Віктар Сапʼянік, трактарыст:**
– Няма ў мяне маёмасці: ні машыны, нічога. А раней страхаваўся. Два разы ногі ламаў, дык страхоўка сталася болей за зарплату. Цяпер не страхуюся, бо ніхто не прапануе. Раней, калі прыходзіў агент, ніколі не адмаўляўся.



**Ірына Заруба, хатняя гаспадыня:**
– Калі згарэў барак, то згадала пра страхаванне. У людзей там усё згарэла. Шкада. У нас няма адладжанай сістэмы страхавання. Калі б да мяне прыйшлі дадому, і мяне задавальнялі ўмовы страхавання, то чаму б і не?



**Караліна Куляшова, прадавец:**
– Нічога. Чаму, не ведаю. Незразумелая мне сама працэдура страхавання. Ды і не распаўсюджанае яно ў Маладзечне.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Юрый КАРПІЦКІ і Яўген СТЭЛЬМАХ (фота).**

■ НАШ КАМЕНТАРЫЙ

## Рынак жылля стабілізаваўся

Увесну большасць з нас прагне пераменаў – хаця б у знешнім жыцці. Хтосьці пачынае рабіць рамонт у кватэры ці абнаўляе шпалеры ў спальні і кухні, некаторыя, наогул, вырашаюць змяніць жытло. Што ж робіцца на рынку жылля, і якія перамены нас чакаюць?

Агляд цэнаў на рынку нерухомасці паказвае, што падзенне цэнаў скончылася і адбываецца іх стабілізацыя, рынак пачынае прыходзіць у сябе. Абвал цэн працягваўся амаль два гады – як наступства жнівеньскага фінансавага крызісу 1998 года – і асабліва праявіўся ў 1999–2000 гадах. Менавіта тады адзначалася небывалае зніжэнне попыту – аднаму пакупніку прапаноўвалася 10–15 варыянтаў кватэр. Такое становішча захоўвалася амаль год, і мінулым летам цэны на кватэры дасягнулі мінімальнага ўзроўню: да гэтага часу нерухомасць патаннела, у сярэднім, на трэцюю частку. У першую чаргу, гэта датычылася малапрывабнага жылля (кватэр у хрушчоўках і панельных дамах). Больш устойлівымі аказаліся цэны элітных кватэр з палепшанай планіроўкай і вялікай кухняй, таму што іх прапаноўванне на рынку невялікае. Аднак паступова ўвосень з рынку пачалі знікаць самыя танныя кватэры – аднапакаёвыя і паўтарачныя, бо іх пакупнікі адчулі, што меншых цэн, напэўна, не будзе, і паспяшаліся іх набыць.

Да цяперашняй вясны падзенне цэн спынілася, і цэны стабілізаваліся. Нягледзячы на выкананне планаў па ўводзе жылля мінулага года, аб'ём новага будаўніцтва падае, таму што гэтая галіна з-за падаражэння электраэнергіі і паліва перастае быць прыбытковай. Жыллёвая палітыка дзяржавы робіцца больш жорсткая – мяркуецца павелічэнне долі сродкаў насельніцтва ў фінансаванні будаўніцтва і, адпаведна, скарачэнне долі дзяржаўных сродкаў (крэдытаў і субсідый). Гэта можа прывесці да нязначнага росту цэнаў на рынку. Чаму таксама могуць садзейнічаць інфляцыйныя чаканні пакупнікоў – боязь, што цэны вырастуць і грошы прападуць зусім. На павелічэнне цэнаў можа паўплываць і паляпшэнне якасці жылля, што ўзводзіцца, і рост долі новых кватэр на рынку, якія, натуральна, даражэйшыя за старыя.

Але тэндэнцыя да росту цэн – не адзіная. Іх сур'ёзным абмежавальнікам можа стаць рост тарыфаў на камунальныя паслугі і інфляцыя. Павелічэнне кватэрнай платы і камунальных тарыфаў можа прымусіць некаторых уладальнікаў жылля пазбавіцца ад лішніх метраў, якія сталі непасільныя. Цэны стрымліваюцца таксама перавышэннем прапановы над попытам, павышэнне нашых заработкаў не дазволіць адкладаць на будаўніцтва ці куплю жылля.

Можна канстатаваць, што стабільнасць на рынку жылля сёлета захаваецца. Жадаючым купіць раім зрабіць цяпер. Спяшацца няма куды, але адкладаць не варта, жыллё можа падаражэць. Прадаўцам, пры адсутнасці вострай патрэбы ў грашах, раім не прадаваць па нізкіх цэнах і пачакаць.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

# Серыял без выхадных

**МАЛАДЗЕЧНА. Рыначак у Беразінскім з'явіўся даўно. Перабудаваны на новым месцы колькі год таму, ён неўзабаве стаў неад'емнай часткай жыцця беразінцаў. Спачатку гэта была нескладаная пабудова з дахам і адзіным прылаўкам, дзе рэдка можна было сустрэць сапраўдны гандаль. Прыходзілі або прыязджалі гандляваць малочнымі таварамі толькі жыхары, і гэта мала нагадвала тое, што адбываецца цяпер.**

Рынак адчуў уздзеянне часу. Развіццё гандлёвых стасункаў, штогадовае падзенне ўзроўню жыцця прывялі да таго, што сюды пацягнуліся амаль усе. Нават тыя, хто не хацеў. Прычым, усё часцей прыходзілі беразінцы не толькі купляць, але і прадаваць. Гэта стала адным з самых жывых месцаў у мястэчку – сапраўдная ранішняя "тусоўка". Штодня ад раніцы і да абеду можна набыць усё неабходнае. З'явіліся з часам і нованўвядзенні: дабудавалі з другога боку яшчэ адзін прылавак, жыллёва-камунальная гаспадарка вызначыла памер аплаты за месца – рынак выйшаў на больш высокі ўзровень. Акрамя мясцовых "доўгажыхароў" па продажы малочных тавараў, пацягнуліся ў пошуку пакупнікоў гандляры з Маладзечна і Валожына.

Для беразінцаў гэта таксама вялікі дадатак, не трэба кожны раз ехаць у Маладзечна, каб набыць якую-небудзь неабходную дробязь. Хаця нельга сказаць, што цэны на "базарчыку" цалкам задавальняюць мясцовых пакупнікоў. Яны, безумоўна, меншыя за тыя, што ў магазінах, але перарастаюць маладзечанскія. Так бы мовіць, залатая сярэдзіна. 20 кіламетраў дарогі, усё ж, адбіваецца на кошце тавараў. Такім чынам, калі трэба купляць шмат рэчаў, усе рушаць у горад, што і зразумела.

**Дзмітрый** (пакупнік):

– Лічу, што наш рынак павінен існаваць. Тут заўсёды можна купіць, што патрэбна, прычым, па даволі прымальных цэнах. Вядома, не заўсёды можна напаткаць вялікі выбар, але я цалкам задаволены. Нават макулатуру калі-нікалі прымаюць.

**Сяргей** (прадпрымальнік):

– На рынку паспяхова можна гандляваць, калі заўсёды ўлічваць попыт. Беразінцы штодня прыходзяць сюды, нават калі ім не трэба нічога купляць. Гэта, я лічу, для іх, як меладрама, як серыял, які ідзе кожны дзень, і людзі бясконца яго глядзяць.

Рынак, сапраўды, выконвае свае функцыі: прымае гасцей з таварамі, гаспадароў з грашыма, з'яўляецца асноўным месцам гандлю, у свабодны ад "работы" час хавае людзей ад дажджу. І ўвогуле, дае ўсім знаць, што ў мястэчку добра наладжаны тавараабмен.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ВЫМУШАНЫ БІЗНЕС

# «Куплю вашыя ідэі. Дорага»

**МАЛАДЗЕЧНА. Аднойчы ў газеце заўважыў цікавую аб'яву: «Куплю ідэю або дапамагу яе рэалізаваць». Не адразу сабе ўявіў, што гэта ўсё значыць і як "мерапрыемства" можа праходзіць. Патэлефанаваў, каб высветліць падрабязнасці пра своеасаблівага канкурэнта патэнтных службаў.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА

**Ідэю перапрацоўкі смецця купляць не давялося – яна, аказваецца, ляжала на паверхні.**

**– Як узнікла ідэя заняцца такой справай?**

– Вядома, што людскі патэнцыял вялікі, але не ўсе і заўсёды ведаюць, як яго скарыстаць. Людзі рассейваюць свае веды, а як іх сабраць разам і адправіць па месцы прызначэння, ведае далёка не кожны. Трэба меркаванні выкласці каму–небудзь, паразважаць, знайсці нешта яшчэ, і тады ўсё атрымаецца. Усе людзі разам валодаюць вялікай інфармацыяй, але толькі разам, а не паасобку.

**– Вы, акрамя гэтага, працуеце?**

– Безумоўна. Я прадпрымальнік. Мы і раней збіраліся з сябрамі і абмяркоўвалі розныя ідэі. Толькі цяпер ужо вырашылі падключыць да працэсу больш людзей, якія ўсе разам валодаюць разнастайнай інфармацыяй.

**– Шмат людзей да вас ужо звярнулася?**

– Так, нягледзячы на тое, што гэта яшчэ толькі пачатак нашай дзейнасці (мы далі ўсяго дзве аб'явы). Чалавек бачыць і разумее, што патрэбна ў гэтым жыцці, што можа прынесці грошы, і ён, у большасці выпадкаў, проста шукае дапамогу, бо аднаму рэалізаваць свой праект звычайна цяжка.

**– Можаце прывесці прыклад хоць адной ідэі?**

– Ведаеце, калі скажу нават у некалькіх словах, то людзі могуць пазнаць свае праекты. Навошта гэта? Ідэй шмат, прычым, самых розных: у галіне навукі, тэхнікі, гандлю і г. д. Прапанавалі нават канструкцыю стварэння нейкага новага гарэлачнага апарата. Усе ідэі вынікаюць, я лічу, з сучаснага жыцця, і людзі шукаюць, што цяпер актуальна, што карыстаецца попытам. Праўда, сутыкаліся, у нейкай ступені, і з фантастычнымі ідэямі. У адным выпадку чалавек нават закрануў – для дасягнення мэты – увогуле, ледзь не ўсе сусветныя рэсурсы.

**– Хто тэлефануе, у асноўным?**

– Людзі звяртаюцца розныя, але ўмоўна іх можна падзяліць на 3 катэгорыі. Першая – каму патрэбныя грошы, яны свае ідэі жадаюць проста прадаць. Другая – тыя, хто марыць прывесці ў жыццё свае праекты, але ім чагосьці не хапае, яны не могуць гэта зрабіць самі. Ну, і трэцяя група – гэта людзі з некалькі фантастычнымі ідэямі. Увогуле, мы абмяркоўваем усе прапановы, глядзім, адзначаем. Калі ідэя добрая, то выкупляем або дапамагаем ажыццявіць.

**– А колькі каштуе ідэя?**

– Пытанне, вядома, цікавае. Яна каштуе (калі чалавек яе хоча проста прадаць) роўна столькі, колькі можна зарабіць на ёй. У такіх выпадках мы дамаўляемся, купляем, і яна становіцца нашай. Мы яе выкарыстоўваем.

**– Есць іншыя выпадкі?**

– Так, гэта тая другая група, якую я вызначыў вышэй. Некаторыя жадаюць самі працаваць са сваёй ідэяй, толькі з нашай дапамогай. Такім чынам, яны робяцца гаспадарамі сваёй працы, і са свайго даходу выплачваюць нам пэўны працэнт, які мы разам вызначаем і дамаўляемся. Ёсць і такія людзі, з якімі мы аб'ядноўваемся і працуем разам. Кожны выпадак трэба разглядаць, думаць над ім, абмяркоўваць, бо ў кожным ёсць нейкая свая арыгінальнасць і непаўторнасць!

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

**P. S.** Ці не падаецца вам гэтая сітуацыя не зусім, скажам, нармальнай? Людзі нават ідэі свае не могуць даверыць роднай краіне. Таму, напэўна, што не заплаціць хаця б нейкі мінімум, у адрозненне ад нашага субяседніка. А калі і "захоча" нечым аддзячыць смелую думку, то паставіць на гэтым шляху столькі перашкод, што патэнцыяльны вынаходнік міжволі будзе шукаць прасцейшыя шляхі. У публікацыі мы не закраналі юрыдычны аспект праблемы.

## Курсы валют НБ РБ

| | 29 сакавіка | 5 красавіка |
|---|---|---|
| Долар | 1290,00 руб. | 1310,00 руб. |
| Нямецкая марка | 588,14 руб. | 599,16 руб. |
| Літ | 322,62 руб. | 327,42 руб. |
| Расійскі рубель | 44,84 руб. | 45,38 руб. |
| Злоты | 313,69 руб. | 323,58 руб. |
| ЕЎРА | 1150,29 руб. | 1171,86 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1320 – 1330 руб. | 1330 – 1345 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 28.03 | 4.04 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1980 | 1980 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 6490 | 6490 |
| Сасіскі, 1 кг | 2100 | 2100 |
| Селядзец, 1 кг | 1430 | 1430 |
| Рыс, 1 кг | 500 | 500 |
| Грэчка, 1 кг | 480 | 480 |
| Цукар, 1 кг | 570 | 570 |
| Алей, 1 л | 720 | 720 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 670 | 700 |
| Маянэз, 200 г | 220 | 230 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1500 | 1500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 400 | 400 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 380 | 380 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 200 | 200 |
| Капуста, 1 кг | 280 | 300 |
| Лімоны, 1 кг | 1300 | 1300 |
| Апельсіны, 1 кг | 1150 | 1150 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Смятана, 1 л | 900 | 900 |
| Масла, 1 кг | 1800 | 1800 |
| Тварог, 1 кг | 900 | 900 |
| Малако, 1,5 л | 350 | 350 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 850 | 950 |
| Бульба, вялікае вядро | 750 | 800 |
| Морква, 1 кг | 350 | 350 |
| Яблыкі, 1 кг | 380 | 400 |

«РГ»-СТАТЫСТЫКА

## Беспрацоўных паменела за кошт Смаргоні

| | Колькасць беспрацоўных на 1 красавіка | Узровень беспрацоўя |
|---|---|---|
| Маладзечна | 1532 (+31) чал. | 2,6% |
| Маладзечанскі раён | 259 (0) чал. | 1,0% |
| Астравецкі раён | 365 (+11) чал. | 2,6% |
| Ашмянскі раён | 172 (-9) чал, | 0,9% |
| Валожынскі раён | 170 (+1) чал. | 0,9% |
| Вілейскі раён | 474 (-16) чал. | 1,5% |
| Мядзельскі раён | 239 (-17) чал. | 1,4% |
| Смаргонскі раён | 1095 (-55) чал. | 3,3% |
| **Усяго па рэгіёне** | **4306 (-54) чал.** | **2,0%** |

У дужках, як звычайна, змяненне колькасці ў параўнанні з публікацыяй месячнай даўнасці.

Упершыню мы падлічылі агульны ўзровень беспрацоўя ў рэгіёне. Такой лічбы афіцыйна не існуе, але наша адрозніваецца ад рэальнай хіба на 0,1%.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Узровень беспрацоўя ў Беларусі дасягнуў 2,3%

**Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, на канец лютага ў краіне зарэгістравана 103,8 тысячы беспрацоўных.**

Найбольшы ўзровень беспрацоўя зарэгістраваны ва ўсходніх рэгіёнах: у Віцебскай і Магілёўскай абласцях – 2,9%, у Гомельскай – 2,8%. У Гродзенскай вобласці беспрацоўе склала 2,6%, у Мінскай – 2,2%, у Брэсцкай – 2%, у Мінску – 1,5%.

Сярэдні памер дапамогі па беспрацоўі ў лютым склаў 4295 рублёў (3,5 долара ЗША ў пераліку па афіцыйным курсе на канец лютага).

**Па матэрыялах БелаПАН.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Адгукніцеся, пацярпелыя!

**МАЛАДЗЕЧНА. ГРАУС расследуе крымінальную справу ў дачыненні да грамадзяніна Асокіна Аляксея Міхайлавіча па факце махлярства. Шляхам падману падазроны завалодваў чужымі грашыма і ў далейшым не меў намеру аддаваць іх.**

Хто пацярпеў ад гэтага махляра, **тэлефануйце ў Маладзечна 71089** да оперупаўнаважанага аддзела па эканамічнай злачыннасці Маладзечанскага ГРАУС капітана міліцыі **Марата Аляксандравіча Саўчыца, кабінет №202.**

# Месяцавы каляндар садова-агародных работ на 2001 год

## КРАСАВІК

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| **Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры | 3, 4, 8, 16–18, 22, 30 |

### Спрыяльныя дні

**Сяўба, пасадка**

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| Агуркоў на расаду, салаты, шпінату, кропу, пятрушкі, сельдэрэю на зяленіва | 2, 7, 24, 28, 29 |
| Баклажанаў, перцу | 7, 28, 29 |
| Бабоў, гароху, фасолі | 2, 7, 24, 25 |
| Радысу, морквы, бручкі, рэпы, пятрушкі (каранёвай), пастарнаку, буракоў | 9, 10, 14, 15, 19, 20 |
| Памідораў на расаду | 1, 7, 24 |
| Капусты на расаду і пад плёнку | 7, 24, 28, 29 |
| Бульбы | 9, 10, 14, 15, 19, 20 |
| Сланечніка | 6, 7 |
| Цыбулі, часнаку | 9–12 |
| Малін, чорных парэчак, агрэсту | 1, 2, 7, 27, 28 |
| Суніц | 19, 20, 25–29 |
| Яблынь, груш, сліў, вішань, чарэшань і іншых пладовых дрэў | 13–15 |
| Руж, акацый і іншых дрэў і кустоў, якія цвітуць | 1, 2, 7, 27, 28 |
| Хрызантэм | 5, 6, 25–28 |
| Нарцысаў, вяргінь, гладыёлусаў, півоняў | 5–7, 9, 27, 28 |
| Гіяцынтаў | 2, 27, 28 |

**Уборка**

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| Агуркоў і зеляніны | 2–4, 7, 9, 10, 24, 25 |
| Радысу, морквы, пятрушкі (каранёвай) | 9, 10, 13, 14, 16, 17, 21 |
| **Праполка і апырскванне** ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб | 3, 4, 8, 16–18, 22, 23, 30 |
| **Абрэзка** ягадных культур | 9, 10 |
| **Паліванне і падкормка** ўсіх культур | 2, 10, 19, 20, 28, 29 |
| **Прышчэпліванне** пладовых дрэў | 1, 2, 7, 28, 29 |
| **Яравізацыя** бульбы | 9, 10, 21, 23 |

## МАЙ

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| **Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры | 1, 7, 13–15, 22, 23, 27, 28 |

### Спрыяльныя дні

**Сяўба, пасадка**

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| Агуркоў на расаду і пад плёнку | 6, 25, 26 |
| Памідораў пад плёнку | 25, 26 |
| Салаты, шпінату, кропу, пятрушкі і сельдэрэю на зяленіва | 4–6, 25, 26 |
| Баклажанаў, перцу | 6, 25, 26, 31 |
| Бабоў, гароху, фасолі | 6, 25, 26, 31 |
| Радысу, морквы, бручкі, рэпы, рэдзькі, пятрушкі (каранёвай), пастарнаку, буракоў | 11, 12, 16, 17, 21 |
| Капусты | 4–6, 25, 26, 31 |
| Бульбы | 11, 12, 16, 17, 21 |
| Сланечніка | 4, 5, 31 |
| Цыбулі, часнаку | 8–10, 21 |
| Малін, чорных парэчак, агрэсту | 6, 25, 26 |
| Суніц | 11, 12, 25, 26 |
| Яблынь, груш, сліў, вішань, чарэшань і іншых пладовых дрэў (да распускання пупышак) | 9–12, 21 |
| Руж, акацый і іншых дрэў і кустоў, якія цвітуць | 2, 3, 25, 26, 29, 30 |
| Хрызантэм | 2, 3, 29, 30 |
| Нарцысаў, вяргінь, гладыёлусаў, півоняў | 2, 3, 29, 31 |
| Гіяцынтаў | 6, 25, 26 |

**Уборка**

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| Агуркоў і зеляніны | 4, 5, 11, 12, 25, 26 |
| Караняплодаў (радысу, морквы, пятрушкі) | 9, 10, 13, 14, 18–20 |
| **Праполка і апырскванне** ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб | 1, 7, 13–15, 22, 23, 27, 28 |
| **Паліванне і падкормка** ўсіх культур | 4–6, 16, 17, 25, 26 |
| **Прышчэпліванне** пладовых дрэў | 5, 6, 25, 26 |

## ЧЭРВЕНЬ

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| **Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры | 6, 7, 9–11, 23–25, 29 |

### Спрыяльныя дні

**Сяўба, пасадка**

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| Агуркоў | 3, 4, 22, 30 |
| Памідораў | 3, 4, 22, 30 |
| Салаты, шпінату, сельдэрэю, пятрушкі на зяленіва | 3, 4, 22, 28, 30 |
| Баклажанаў, кабачкоў, гарбуза | 22, 28, 30 |
| Рэпы, рэдзькі, буракоў, бручкі | 7, 8, 17, 18 |
| Капусты | 2–4, 22, 28–30 |
| Бульбы | 7, 8, 17, 18 |
| Цыбулі, часнаку і перцу | 3–5, 30 |

**Уборка**

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| Агуркоў і зеляніны | 2–5, 21–24 |
| Ранняй бульбы і ранніх караняплодаў | 7–11, 15, 16, 19, 20 |
| Суніц, чорных парэчак, чарэшні, ранніх яблыкаў | 1, 2, 5, 15, 16 |
| **Праполка і апырскванне** ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб | 6, 7, 9–11, 23–25, 29 |
| **Паліванне і падкормка** ўсіх культур | 2–4, 12, 13, 21, 23 |

## ЛІПЕНЬ

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| **Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры | 5, 7–9, 20–22 |

### Спрыяльныя дні

**Сяўба, пасадка**

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| Агуркоў | 1, 25–27 |
| Памідораў | 1, 27, 28 (да 15 г.) |
| Баклажанаў, кабачкоў, гарбуза | 1, 25–27 |
| Зялёных культур (салаты, шпінату і інш. | 1, 19, 25–27 |
| Цыбулі, часнаку, перцу | 1–4, 27–30 |
| Капусты | 1, 25–27 |
| Радысу, рэпы, бручкі | 10, 11, 15, 16, 19 |

**Уборка**

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| Ранняй капусты | 4, 5, 9, 21, 25 |
| Агуркоў і зеляніны | 4, 5, 21, 25 |
| Ранняй бульбы і ранніх караняплодаў | 7, 8, 12, 13, 17, 18 |
| Суніц, чорных парэчак, чарэшні, ранніх сліў і яблыкаў, вішань | 21, 22, 25, 26 |
| **Праполка і апырскванне** ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб | 5, 7–9, 19, 20–22 |
| **Паліванне і падкормка** ўсіх культур | 4, 9, 19, 20, 27, 28 |
| **Акуліроўка** (прышчэпліванне пупышкай) яблынь, груш і іншых пладовых дрэў | 19, 27, 28 |

## ЖНІВЕНЬ

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| **Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры | 3–5, 17–19, 30–31 |

### Спрыяльныя дні

**Сяўба, пасадка**

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| Агуркоў на расаду для цяпліц | 23–25 |
| Салаты, шпінату, пятрушкі (ліставой) | 21–25 |
| Суніц | 6, 7, 15, 16, 24, 25 |
| Радысу, рэпы, бручкі | 6, 7, 11, 12, 15, 16 |

**Уборка**

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| Сярэднеспелай капусты | 1–3, 21 |
| Сярэднеспелай бульбы і караняплодаў | 9, 13, 14, 18 |
| Цыбулі і часнаку | 9, 13, 14, 18 |
| Агуркоў і памідораў | 1–3, 21 |
| Яблыкаў, груш, сліў, вішань і іншых пладоў і ягад | 3, 9, 13, 18, 21 |
| **Акуліроўка** пладовых дрэў | 28–29 |
| **Абрэзка** ягаднікаў | 10–12 |
| **Нарыхтоўка** сокаў з пладоў і ягад | 3, 4, 30, 31 |
| **Кансерваванне** | 11, 12, 18 |
| **Праполка і апырскванне** ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб | 3–5, 17–19, 30, 31 |
| **Паліванне і падкормка** ўсіх культур | 6, 7, 15, 16, 18, 22 |

## ВЕРАСЕНЬ

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| **Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры | 1, 3, 13–15, 17, 26–29 |

### Спрыяльныя дні

**Сяўба, пасадка**

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| Суніц | 4, 10 |
| Часнаку пад зіму | 20–23 |
| Пятрушкі і сельдэрэю на зяленіва | 2, 19–21 |
| Радысу | 7, 8, 12 |
| Пладовых і ягадных культур | 7, 8, 12 |
| Руж, акацый і іншых дрэў і кустоў, якія цвітуць | 18, 19, 25 |

**Уборка**

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| Бульбы для працяглага захоўвання | 9, 10, 14, 15 |
| свежага спажывання | 4–6, 12 |
| Буракоў, рэпы, рэдзькі і морквы | 9, 10, 14, 15 |
| Яблыкаў, груш, сліў, агрэсту | 4–6, 14, 15 |
| Памідораў і агуркоў | 1, 2, 18, 19, 22 |
| **Праполка** і знішчэнне шкоднікаў на ўсіх культурах, апырскванне іх супраць шкоднікаў і хвароб | 1, 3, 13–15, 17, 26–29 |
| **Паліванне і падкормка** ўсіх культур | 8, 12, 18, 24 |
| **Нарыхтоўка** сокаў, кансерваванне пладоў і ягад, квашанне капусты | 1, 8, 14, 15 |

## КАСТРЫЧНІК

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| **Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры | 2, 3, 11, 12, 16, 17, 24–26 |

### Спрыяльныя дні

**Сяўба, пасадка**

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| Пладовых дрэў і кустоў | 4, 5, 9, 10 |
| Цыбулі і часнаку (пад зіму) | 15, 18, 19 |
| Морквы (пад зіму) | 4, 5, 9, 10, 15 |

**Уборка**

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| Бульбы для працяглага захоўвання | 4, 11, 12, 15 |
| свежага спажывання | 3, 7–9 |
| Морквы і іншых караняплодаў | 4, 11, 12, 15 |
| Позніх яблыкаў | 1, 11, 15 |
| **Культывацыя**, праполка, апырскванне супраць шкоднікаў і хвароб усіх культур | 2, 3, 11, 12, 16, 17, 24–26 |
| **Абрэзка** дрэў і кустоў | 11, 12, 15 |
| **Нарыхтоўка** сокаў з пладоў і ягад, квашанне капусты | 4, 5, 11, 12 |

## ЛІСТАПАД

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| **Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры | 1, 7–9, 14, 15, 20–22, 30 |

### Спрыяльныя дні

**Сяўба, пасадка**

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| Насення яблынь, груш, сліў, вішань для атрымання саджанцаў | 16–19 |
| Цыбулі і часнаку (пад зіму) | 12, 13, 16 |
| Морквы (пад зіму) | 5, 6 |
| **Культывацыя**, перакопванне, знішчэнне шкоднікаў | 1, 7–9, 14, 15, 20–22, 30 |
| **Уцяпленне** буртоў і сховішчаў | 7, 8 |
| **Нарыхтоўка** сокаў з пладоў і ягад, квашанне капусты | 11–13, 16, 17 |

## СНЕЖАНЬ

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| **Дні, неспрыяльныя** для сяўбы і пасадкі любой культуры | 1, 4–6, 14, 15, 17–19, 30 |

### Спрыяльныя дні

**Сяўба, пасадка**

| Віды работ па культурах | Дні месяца |
|---|---|
| Агуркоў цяплічных гатункаў на расаду (папярэдне праверце на ўсходжасць) | 20, 21, 29 |
| Караняплодаў (радысу ў цяпліцы і на падваконні) | 2, 3, 10–12 |
| **Уборка** цяпліцы ў цяпліцы | 3–5, 9, 10 |
| **Паліванне** раслін | 2, 3, 11, 12, 29, 30 |
| **Нарыхтоўка** чаранкоў для веснавога прышчэплівання (калі няма моцных маразоў) | 20, 21, 29 |
| **Зімовае прышчэпліванне** яблынь, груш, сліў | 16, 20, 21 |

Месяцавы каляндар прыстасаваны для садаводаў і агароднікаў нашага рэгіёна, але можа быць выкарыстаны і па ўсёй Беларусі, а таксама на прылеглых тэрыторыях (суседнія вобласці Расіі, Літва, Латвія, Украіна).

З улікам фаз Месяца, часу праходжання яго па знаках Задыяка, а таксама дат сатанінскіх дзён вызначаны найбольш спрыяльныя для сяўбы, пасадкі, уборкі, барацьбы са шкоднікамі і хваробамі раслін дні (чыслы) у кожным месяцы 2001 года.

**Каляндар склаў Альбін МАКАРЭВІЧ.**

# Спецыяліст раіць верыць каляндару

**МАЛАДЗЕЧНА. Летась спецыялісты Мінскай аблдзяржсортстанцыі пры гаспадарчых работах улічвалі каляндар спрыяльных дзён. Загадчык гароднiннага сортаўчастка Валянціна Пахомчык сведчыць, што ўраджай летась быў добры. Станцыя праводзіць выпрабаванні як вядомых, так і новых сартоў сельскагаспадарчых культур. Зробім агляд лепшых сартоў, якія летась вытрымалі выпрабаванні.**

| Назва сорту | Тэрмін выспявання | Ураджайнасць, ц/га | Тэрмін уборкі (месяц) | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|
| **Капуста белакачанная** | | | | |
| Чэсма $F_1$ | ранняя | 465 | канец 06 | — |
| Казачок | ранняя | 406 | пачатак 07 | — |
| Алабама $F_1$ | сярэдняя | 1188 | пачатак 10 | Захоўваецца 4 мес. |
| Надзея | сярэдняя | 971 | пачатак 10 | Добра захоўваецца |
| Лаціма $F_1$ | позняя | 696 | пачатак 10 | Захоўваецца да новага ўраджаю |
| **Агуркі** | | | | |
| Світанак | сярэдні | 376 | сярэдзіна 07 | Не жаўцеюць, устойлівыя да хвароб |
| Верасень | позні | 415 | канец 07 | — |
| Офікс $F_1$ | ранні | 390 | сярэдзіна 06 | Не мае пустацвету |
| Іра $F_1$ | ранні | 430 | канец 06 | — |

**У наступным нумары «РГ» мы змесцім заканчэнне каментарыя загадчыцы гароднiннага сортаўчастка Мінскай аблдзяржсортстанцыі Валянціны Пахомчык. Вы зможаце падклеіць яго да гэтай старонкі.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

# Сафонаў у суботу чакае балельшчыкаў

**"Металург-JР" усяго на 2-3 ачкі апярэджвае ў табліцы чатырох бліжэйшых канкурэнтаў. Аднак самы сур'ёзны з іх, безумоўна, "Сімург". У гэтым сезоне былі з ім дзве сустрэчы: у першым крузе чэмпіяната ў Мінску нічыя 0:0, у кубкавым турніры мінчане выбілі нашых з барацьбы – 5:6 (леташняя кубкавая дуэль таксама прайграная 4:5, а вось у чэмпіянаце абедзве сустрэчы прайшлі ў Мінску, і пасля паражэння 0:6 была перамога 4:3). Пра сітуацыя напярэдадні матча гаворка з галоўным трэнерам каманды Сяргеем Сафонавым.**

**– Крыху пра ўнутраныя справы каманды. Каго з футбалістаў адзначыце, хто цяпер на вядучых ролях?**

– У добрай форме **Кіркіж** (не сурочыць бы). Калі і былі ў апошніх матчах памылкі ў абароне, ён часта выратоўваў каманду, гэтак жа як і **Кузняцоў**, якога ў першай чацверцы выкарыстоўваем на самай апошняй абарончай пазіцыі. На жаль, траўміраваны **Бахур**, таму ў запасе знаходзіцца **Мялюк**. А Кузняцоў і ў атацы таксама адзін з лідэраў чацверкі разам з нашымі бамбардзірамі **Янелем** (32 галы – **аўт.**) і **Сіткевічам** (18). У другой чацверцы нядрэнна дзейнічае **Шаўчэнка**, на вядучых ролях **Казяк**, у Віцебску, што называецца, стрэліў **Гружэўскі**.

**– У параўнанні з мінулым сезонам, здаецца, не такая відавочная розніца ў класе паміж чацверкамі?**

– Так. Узровень іх гульні падраўняўся. У першай, паранейшым, сабраныя выканаўцы, якія больш тэхнічныя і дасведчаныя. Другая паказвае добрую гульню за кошт камандных дзеянняў, тых схемаў, якія вывучаюцца на трэніроўках.

**– Як, лічыце, складзецца матч з "Сімургам", якую тактыку абераце?**

– Будзем гуляць на перамогу. Гэта патрэбна, каб адарвацца ў табліцы ад "Сімурга", каб захаваць дыстанцыю з іншымі канкурэнтамі, каб адчуваць упэўненасць перад наступнымі матчамі, калі ў Мінску нас будуць чакаць непрыемны сапернік МАПІД і ў заключным туры "Дарожнік". Тактыка паўпрэсінгу, якую прымянялі ў апошніх матчах, актыўны варыянт гульні пры якім узнікаюць складанасці для праціўніка.

**– Наколькі вас задавальняе тактычная, тэхнічная, фізічная, псіхалагічная гатоўнасць каманды?**

– Мы ў нядрэннай фізічнай форме, гульцоў хапае на ўвесь матч актыўных дзеянняў. Псіхалагічна максімальна гатовыя, ніхто не баіцца, не мандражыруе. Мы аб'ектыўна мацнейшыя ў тактычным і тэхнічным плане, у арганізацыі гульні. Як пастаянна кажу хлопцам, што ўсё будзе залежыць ад маральна-псіхалагічнага настрою, ад упэўненасці у сваіх сілах.



Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

**Хочацца спадзявацца, што пасля матча з «Сімургам» у былога памочніка Сяргея Сафонава Канстанціна Харламава з'явяцца прычыны для віншаванняў.**

**– Ці будзеце неяк асабліва рыхтавацца да матча?**

– Не, у нас адна трэніроўка ў дзень. Гэтага дастаткова напрыканцы сезона. Нам трэба стварыць добры псіхалагічны клімат у камандзе, адпрацаваць тактычныя манеўры, падцягнуць тыя вузкія месцы, што правакавалі памылкі ў апошніх матчах.

**– Ці вядома, хто будзе судзіць гульню? Каго б вы не хацелі з суддзяў? Хто з афіцыйных асоб чакаецца на матчы?**

– Суддзі будуць вядомыя ў чацвер. Я не хацеў бы тых, хто нас ужо раней "сплаўляў", напрыклад, **Мелянчука**, **Місючэнку**. Зацікаўленыя асобы будуць усе: кіраўнікі асацыяцыі міні-футбола, **Віктар Шукан** – віцэ-прэзідэнт федэрацыі футбола, які адказвае за міні-, **Сяргей Раманоўскі** – арганізатар фанлігі і іншыя. Я паспрабую арганізаваць прыезд нашага фарм-клуба ВСОШ-21. Вельмі патрэбная падтрымка маладзечанскай "тарсіды": і фанатаў, і сярэднестатыстычных заўзятараў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**31.03 Віцязь (Віцебск) – Металург-JР 3:9 (1:6)**

**Галы:** Гружэўскі – 4, Казяк – 2, Сіткевіч, Снятко і Янель.

**Склад:** Кіркіж; Кузняцоў, Максімаў, Сіткевіч, Снятко, Янель; Гарнастаеў, Гружэўскі, Казяк, Складаноўскі, Шаўчэнка; Мялюк.

| Каманды | Матчы | Ачкі |
|---|---|---|
| 1. Металург-JР | 22 | 52 |
| 2. Белаўтасервіс | 22 | 50 |
| 3. Дарожнік | 22 | 50 |
| 4. Хемікс | 22 | 49 |
| 5. Сімург | 21 | 47 |

Табло

## Пастаяннае абнаўленне!

**Чытайце пра ФК «Маладзечна» у Internet: fcmolo-belarus.narod.ru**

■ МІЖСЕЗОННЕ

**28.03 Забудова – Металург (Беразінскае) 3:2 (2:0)**
**Галы:** Урублеўскі, Мацюк, Рыгаровіч.

**31.03 Забудова – Смаргонь 1:0 (1:0)**
**Гол:** Мацюк.

**01.04 Маладзечна – Дарыда (Мінск, Д2) 0:3 (0:1)**

**01.04 Маладзечна (дубль) – Дарыда (другі склад) 2:4 (1:3)**
**Галы:** Бегаідзе, Мігас.

**04.04 Маладзечна – СКАФ (Мінск, Д2) 3:4 (1:1)**
**Галы:** Турчыновіч, Шаўроў – па 2

**04.04 Маладзечна (дубль) – Забудова 1:3 (0:2)**
**Галы:** Абановіч; Урублеўскі, Садчанка, Мацюк

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

На гэтым тыдні гуляюць

**07.04. 14-00. Спартзала ЗМК. Металург-JР – Сімург (Мінск)**
Усяго: +1=1-3 13-20. У чэмпіянатах: +1=1-1 4-9. У першым крузе 0:0 на выездзе.

**10.04. 17-00. Беразінскае. Матч дублёраў "Маладзечна" і "Славіі"**

**11.04. 17-00. Маладзечна. Гарадскі стадыён. Маладзечна – Славія (Мазыр)**
+2=1-6 9-16. У апошнім матчы 24.07.99 саступілі дома 2:5 (Вольскі, Мархель).

ФК "Маладзечна" пачынае рэалізацыю білетаў на дамашнія матчы каманды (1000 рублёў, дзіцячы – 500). Прадаюцца абанементы на ўсе дамашнія матчы сезона (13 у чэмпіянаце і 1 у розыгрышы Кубка). Кошт абанемента – 7800 рублёў. Да супрацоўніцтва запрашаюцца распаўсюджвальнікі. Тэл. для даведак у Маладзечне 54582, 52444.

■ ФУТБОЛПРАГНОЗ

## Час вырашальных матчаў

**Прагнозы на паўфіналы і фіналы турніраў "РГ".**

Асноўны турнір

| Паўфіналы | Першы матч | Матч у адказ | |
|---|---|---|---|
| Унтэрхахінг | 2101111111 | 2111121x21 | 111 |
| Мілан-Я | 2122x21111 | 2011122221 | 111 |
| Ньюкасл Юн. | x202111111 | 2x1112x221 | x11 |
| Мідлсбро | 1221111111 | 2111111101 | 111 |

Фінал

| | | |
|---|---|---|
| Унтэрхахінг | 12212x2121 | x11 |
| Мілан-Я | 1221222121 | 212 |
| Ньюкасл Юн. | 1221xx2121 | 211 |
| Мідлсбро | 122122x121 | 212 |

Суцяшальны турнір

| Паўфіналы | Першы матч | Матч у адказ | |
|---|---|---|---|
| Ультрас | 1x12110221 | 2111122111 | 111 |
| Рапід | 21x1111111 | 2111120x21 | 111 |
| Маладзечна-99 | xxx22111x0 | 2x11x22221 | xx1 |
| ТПС | 1111111111 | 1111120121 | 111 |

Фінал

| | | |
|---|---|---|
| Ультрас | 1221211122 | x12 |
| Рапід | 12212x2121 | x11 |
| Маладзечна-99 | 122x22x12x | 2x2 |
| ТПС | 12212x1111 | 112 |

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ФУТБОЛ

# Людас Румбуціс зычыць, каб на матчы білетаў неставала

**Напярэдадні старту чэмпіянату на пытанні «РГ» адказвае галоўны трэнер ФК «Маладзечна» Людас Румбуціс.**

**– Пра склад каманды. Каго з варатароў – Сцепановіча ці Рубацкага – лічыце асноўным?**

– Рубацкі саступіў сваё месца ў аснове выключна з-за траўмы. Трэніравацца пачаў толькі напрыканцы лютага. Усё вырашыцца ў апошнія дні.

**– А не насцярожвае, што абодва не маюць досведу выступленняў у вышэйшай лізе?**

– Ды многае насцярожвае. І варатары, і спарынгаў мала, і на грунце мала працавалі, і, акрамя 3-4 чалавек, усе астатнія досведу вышэйшай лігі зусім не маюць.

**– Чаму? Хтосьці пагуляў там за "Маладзечна", хтосьці – за іншыя каманды.**

– Зусім мала. Ды і тыя, хто быў у "Маладзечне", па вялікім рахунку, самі не гулялі, гэта з імі гулялі, як хацелі. Каманда за два гады дома толькі адзін раз перамагла.

**– Ёсць недахоп абаронцаў?**

– Калі ў **Сысоя** не будзе праблемаў са здароўем, мяркую, абаронцаў нам хопіць. **Азаронак** і **Дараховіч** няблага глядзяцца ў гэтым амплуа.

**– Затое шмат паўабаронцаў. Каму аддаяце перавагу на краях?**

– Відаць, у гэтым сезоне мы будзем мяняць тактыку ў залежнасці ад саперніка. Вось праз год паспрабуем дзейнічаць з пазіцыі сілы, навязваць сваю гульню, а пакуль, магчыма, будзем узмацняць колькасна сярэднюю лінію, гуляць 3-6-1 ці 3-5-2. На краях пакуль лепшыя **Вільтоўскі** і **Тартоўскі**.

**– Пра нападаючых?**

– У нас ёсць дасведчаныя **Шаўроў** і **Турчыновіч**, якія добра могуць згуляць пазіцыйна. Ёсць маладая пара **Макрыцкі-Сідарэнка**. Вельмі спрытныя форварды. Дадае ў сваёй гульні Макрыцкі, забівае ледзь не ў кожным матчы, мае шмат момантаў.

**– Багайчук, Шаўроў і Турчыновіч з нашага складу самыя вядомыя футбалісты. У мінулым сезоне іх перасьледавалі траўмы. Як справы цяпер?**

– Багайчук парадаваў сваімі дзеяннямі ў матчах з "Белшынай" і "Жальгірысам". А вось Турчыновіч пакуль цяжка ўваходзіць у належную форму. І ён, і Шаўроў толькі эпізодамі нагадваюць свае лепшыя якасці.

**– Колькі словаў пра стыль гульні. Як, прыкладам, будзеце дзейнічаць у стартавых матчах з моцнымі сапернікамі?**

– Усё гэта павінна вызначацца ў дзень гульняў. Трэба ад раніцы правесці медабследаванне, вызначыць у якім стане, да прыкладу, тыя ж Макрыцкі і Багайчук. Потым прымаць рашэнне. У нейкіх матчах абавязкова станем прэсінгаваць, у нейкіх пагуляем "другімі нумарамі". Можна будзе выкарыстоўваць і аднаго нападаючага, і нават трох.

**– Да тэмы каляндара. Складаны пачатак сезона. Потым жа будуць матчы супраць каманд, у якіх "Маладзечна" зможа выйграваць.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Людас Румбуціс падчас матча ў Чысці.**

– Што значыць каманды, у якіх можна выйграваць? Ва ўсіх можна і патрэбна выйграваць. Мы будзем выступаць як мага лепш, каб шчыльна запаўняўся наш стадыён, каб на матчы білетаў лішніх не было. Прыгадайце, як згуляў **Мілеўскі** ў Кіеве. Пакінуў клунам **Лужнага**, што выступае за англійскі "Арсенал", а па маладосці быў у зборнай СССР. Вось што значыць працаваць над сабою.

**– Як фінансавае становішча ў праекцыі на ўвесь сезон?**

– Жывем, працуем, не шыкуем, на зборы ў замежжа не ездзім. Набылі новую форму. Горад дапамагае, як можа.

**– Якую ставіце задачу дублёрам? Дзе гуляць дамашнія матчы? Каго з хлопцаў возьмеце на кантракт?**

– Задача рыхтаваць футбалістаў для першай каманды. Гуляць можна і ў Беразінскім. Умовы там нармальныя, а ехаць нават бліжэй, чым у Чысць. Кантракт заключым з **Чарнелем**, **Смірновым**, магчыма, **Відруком**, **Драздом**, іншымі.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**ДАВЕДКА.** Мазырскую «Славію» трэніруе югаслаўскі спецыяліст **Улада Петравіч**. Ён запрасіў у каманду чатырох сваіх суайчыннікаў і расстаўся ў міжсезонні з расійскімі легіянерамі, якія рабілі "надвор'е" летась. За мазыранаў згуляе выхаванец маладзечанскага футбола **Уладзімір Карыцька**, член маладзёжнай зборнай Беларусі.

Цікавая гісторыя ўзаемаадносінаў каманд. Упершыню сустрэліся ў жніўні 1995, і нашы дома перамаглі 2:1 (на галы У. Макоўскага і Акуліча адказаў Багайчук, які цяпер выступае за "Маладзечна"). У лістападзе 1996 мазыране афармілі ў Маладзечне сваё першае чэмпіёнства, калі перамаглі з тым жа лікам.

## Заяўка ФК «Маладзечна»

Галоўны трэнер Людас Румбуціс (1955), начальнік каманды Юрый Лукін (1946), трэнеры Аляксандр Кісцень (1957) і Аляксандр Гармаза (1966), урач Валерый Рашатняк (1965), масажыст Сяргей Пачкоўскі (1958).

Варатары Віталь Сцепановіч (1976; "Свіслач-Дах" – Д2), Аляксей Рубацкі (1978), Максім Асадоўскі (1979).

Абаронцы: Аляксей Мурайвенікаў (1975; "Тарпеда" (Мн) – 11, 0, 1), Дзмітрый Кабельскі (1979; "М" – 26, 0, 10+1), Аляксандр Сысой (1979; "Белшына" – 4, 0, 1), Віталь Бычкоўскі (1981; "М" – 9, 0, 1).

Паўабаронцы Аляксандр Багайчук (1973; "Дынама" (Б), "Тарпеда" (Мн), МВКЦ, "Белшына" – 96, 16, 9), Віталь Міхалёў (1974; "Камунальнік", "М", "Белшына" – 83, 5, 2), Руслан Азаронак (1975; "Віляш" (Масалы, Азербайджан) – Д1; "Дынама" (М) – 5, 1, 0), Аляксандр Карпіленка (1976; "Граніт" – Д2; "Шахцёр" – 91, 1, 12), Аляксей Крывіцкі (1976; "М" – 70, 1, 1), Аляксандр Вільтоўскі (1977), Сяргей Тартоўскі (1978; "Дынама" (М) – 6, 0, 1), Сяргей Дараховіч (1979; "М" – 14, 0, 0), Дзмітрый Мігас (1980; "Белшына" – 35, 1, 1), Андрэй Млечка (1980), Андрэй Міpановіч (1980), Дзяніс Смірноў (1981), Андрэй Лявончык (1982).

Нападаючыя Павел Шаўроў (1971; "Дынама-93", "Дынама" (М), "Шахцёр" – 175, 75, 6), Андрэй Турчыновіч (1974; "Дынама-93", "Белшына" – 154, 42, 5), Сяргей Сідарэнка (1977), Віталь Макрыцкі (1980; "М" – 12, 2, 2), Аляксандр Чарнель (1981), Георгій Бегаідзе (1984; "Лакаматыў" (Тбілісі, Грузія) – Д2).

Пасля года нараджэння футбалістаў даецца статыстыка (матчы, галы, папярэджанні) выступленняў за каманды вышэйшай лігі. Для навічкоў указаныя апошнія каманды.

Дубліруючы склад: варатар Аляксандр Мароз (1982); абаронцы Аляксей Відрук (1980), Андрэй Байлукоў (1982), Сяргей Дрозд (1983), Павел Пятроўскі (1984), Яўген Ясюкевіч (1984); паўабаронцы Аляксей Антановіч (1982), Віталь Абановіч (1982), Аляксандр Альховік (1982), Генадзь Лужынскі (1983), Аляксандр Фірсанаў (1983), Аляксандр Матусевіч (1983), Аляксандр Харэцкі (1984), Мікалай Асіповіч (1986); нападаючыя Аляксандр Грыхуцік (1980), Уладзімір Варатнікоў (1982), Алег Чатырка (1983).

